 

ПАГОНЯ

Чацвер
26 жніўня 1999 г.
№ 52 (429)
Кошт 25.000 руб.

# Скасаваць «супрацьнародны дэкрэт»!

**Беларускі незалежны прафсаюз (БНП) Гарадзенскага вытворчага аб'яднання «Азот» рашуча асудзіў дэкрэт кіраўніка дзяржавы «Аб дадатковых захадах па ўдасканаленню працоўных адносін, умацаванню працоўнай і выканальніцкай дысцыпліны». Пра гэта было заяўлена на сходах, праведзеных ва ўсіх дзесяці пярвічных арганізацыях прафсаюза.**

Як паведаміў намеснік старшыні выканаўчага бюро БНП Уладзімір Салевіч, зараз на прадпрыемстве налічваецца амаль 700 членаў прафсаюза — у 4 разы больш, чым было напачатку года. Гэта, на думку У.Салевіча, сведчыць аб росце напружанасці ў калектыве, грэбаваннем справядлівых патрабаванняў працоўных збоку адміністрацыі, а таксама пазіцыяй «афіцыйнага» прафсаюза, які стаў па сутнасці «аддзяленнем заводаўпраўлення па прафсаюзных пытаннях». Працоўныя аб'яднання выказалі думку, што дэкрэт дазволіць адміністрацыі лёгка пазбаўляцца ад непажаданых людзей, не заключаючы з імі надалей кантракты і, найперш, з актывістамі грамадскага жыцця, лідарамі незалежных прафсаюзаў.

Рабочыя накіравалі кіраўніцтву краіны і асабіста Аляксандру Лукашэнку ліст з патрабаваннем неадкладна скасаваць «супрацьнародны дэкрэт».

# Сімвал яднання

**21-22 жніўня ў Гарадзенскім раёне адбылося свята «Аўгустоўскі канал у культуры трох народаў».**

У жывапіснай мясціне сабраліся прадстаўнікі беларускай, польскай і літоўскай нацыянальных супольнасцяў. Сярод гасцей былі генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Гродне Сільвестр Шостак, кіраўнікі выканкама Гарадзенскага раёна, старасты польскіх прыгранічных гарадоў Сакулка і Кузніца, старшыня Гарадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання літоўцаў «Тэвінэ» Альгімантас Дзіргінчус, беларускія і польскія памежнікі. Польскія гурты «Прыяцелі», «Радунскія салавейчыкі», дзіцячы хор «Крэсовыя гномікі», беларускі ансамбль «Матчына песня», літоўская капела народнай музыкі з Друскенінкая парадавалі прысутных сваім майстэрствам.

Як паведаміў старшыня Гарадзенскага раённага аддзела Саюза палякаў на Беларусі Франц Літовіч, гэта ўжо другі сумесны фестываль. Летась на «Аўгустоўскім канале...» было арганізавана свята «Адам Міцкевіч у культуры трох народаў», прымеркаванае да 200-х угодкаў з дня нараджэння славутага паэта. У наступным годзе таксама плануецца свята з нагоды 2000-га юбілею хрысціянства. Гэты культуралагічны фестываль, як сімвал яднання трох суседніх народаў, мацуе традыцыі духоўнай еднасці беларусаў, палякаў і літоўцаў.

**Антон Лабовіч**

# Зноў РНЕ

**У ноч на 21 жніўня ў Гродне зноў з'явіліся надпісы «РНЕ» («Русское национальное единство»).**

Пра тое, што гэта не хуліганская выхадка падлеткаў, а спланаваная акцыя, гаворыць той факт, што нанесены яны ў розных мікрараёнах горада на будынках, прыпынках грамадскага транспарту, кіёсках, крамах, агароджах, мастах цераз Нёман, рэкламных шчытах, гэта значыць у тых месцах, дзе пастаянна бывае шмат людзей. Акрамя таго, па горадзе зноў былі расклееныя ўлёткі з артыкулам «Мы — русская сталь», у якім лідар «Русского национального единства» Аляксандр Баркашоў прапагандуе «рускі парадак».

Цікава, што такія ж улёткі былі расклееныя прыкладна два тыдні таму. Яны пажаўцелі, але працягваюць вісець.

**Ася Куніцкая**




**26 і 27 жніўня** - пераменная воблачнасць, кароткачасовыя дажджы. Вецер паўднёвы, 6-11 м/с. Тэмпература паветра ўначы +7...+12, удзень +21...+23.

# «Мама, дай булачку...»

**Доўгачасовыя затрымкі па выплаце заробку для нас, жыхароў Беларусі, ужо не навіна. Яшчэ дагэтуль ідуць размовы пра канфлікт у Новым Двары, дзе практычна ўсе работнікі племгаса не выйшлі на працу, патрабуючы выплаты затрыманага заробку.**




У жніўні канфліктная сітуацыя ўзнікла на вядомым у Гродне прадпрыемстве па перапрацоўцы крэветак СП ТАА «Альформа».

«... На прадпрыемстве ўстаноўлены тэрмін выплаты заробку да 18 чысла кожнага месяца. Аднак напрацягу некалькіх месяцаў адміністрацыя затрымлівае выплату заробка на 20-30 дзён, не выплочваюцца адпускныя, затрымліваюцца выплаты дапамогі на дзяцей, не зроблены разлік з тымі работніцамі, што звольніліся. Гэта істотна парушае нашыя правы, і адмоўна адбіваецца на дабрабыце нашых сем'яў...».

Гэта радкі з ліста, што работніцы прадпрыемства накіравалі старшыні ўпраўлення камітэта Дзяржкантролю па Гарадзенскай вобласці М.Праташчык. Вынесці канфлікт за межы прадпрыемства, жанчын вымусіў інцыдэнт, які адбыўся на «Альформе» ў пачатку жніўня.

Распавядае Ірына Байрашэўская, прадстаўніца працоўнага калектыву і старшыня Свабоднага прафсаюзу прадпрыемства:

- Заробак за чэрвень нам пачалі выдаваць трэцяга жніўня. На прадпрыемстве працуе каля 800 жанчын. Заробак у нас 10-14 мільёнаў. Пятага жніўня, калі мы сабраліся ля бухгалтэрыі, выйшла касірка і сказала, што заробак будзе выдаваць толькі да 16.30. У яе, аказваецца, дзень нараджэння, і дома чакаюць госці. Мы ўсе ў роспачы: дзяцей трэба карміць; ды і дырэктар абяцаў, што заробак будзе выплочвацца да канца працоўнага дня. У касіркі яшчэ заставаўся мільярд рублёў. Мы загарадзілі ёй выхад і запатрабавалі грошы. Касірка выклікала міліцыю...

Да слова сказаць, два нарады міліцыі, што з'явіліся на прадпрыемстве, поўнасцю сталі на бок работніц. «Жанчыны, абавязкова дабівайцеся свайго», - такая была пазіцыя міліцыі. Калі маленькі хлопчык, сын адной жанчыны, сказаў: «Мама, дай булачку», у міліцыянта навярнуліся слёзы.

- У гэты час касірка вырашыла перадаць некаму праз акно гэты мільярд. Мы гэта заўважылі і з дапамогай міліцыі вярнулі грошы. Міліцыянты выклікалі дырэктара. Ён паявіўся і сказаў: «Хто тут завадатар? Усе пойдзеце на вуліцу!». Наш дырэктар Аляксандр Савасцьянаў - малады хлопец, яму 22 гады, вучыцца ва універсітэце. Ён сказаў, што грошы атрымае толькі той, хто мае пашпарт. Хаця раней ніхто не патрабаваў дакументаў, бо кожная работніца мела свой нумар.

Далей сітуацыя развівалася наступным чынам. Тыя жанчыны, хто меў пашпарт, атрымлівалі грошы, пазычалі на таксоўку тым, хто не меў пашпарта. Тыя ехалі па дакументы, атрымлівалі заробак і пазычалі іншым. Аднак грошай на ўсіх не хапіла. У пятніцу, суботу, нядзелю жанчыны чакалі свайго заробку. І толькі ў панядзелак, 9 жніўня, былі выдадзеныя астатнія грошы.

18 жніўня, падчас выплаты новага заробку, грошы атрымалі толькі 200 жанчын, астатнім паведамілі: «Грошы невядома калі будуць». Безумоўна, такое становішча не задавальняе работніц прадпрыемства. Яны накіравалі на імя дырэктара ўжо некалькі лістоў. Адказу пакуль няма.

А таму калектыў «Альформы» шукае іншыя шляхі дзеля таго, каб дамагчыся свайго. У дзень выхаду нумару ў друк Ірына Байрашэўская паведаміла: «Калі нашае пытанне не будзе вырашана, мы перакрыем вуліцу».

**Павал Мажэйка**

# Сучасныя веды не патрэбныя?

**Вастрыня сітуацыі, якая склалася вакол Гарадзенскага Недзяржаўнага інстытута сучасных ведаў (НІСВ), не спадае. Чыноўнікі Міністэрства адукацыі блакуюць працэс атрымання інстытутам новай ліцэнзіі на адукацыйную дзейнасць, пазбаўляючы яго магчымасці працягваць сваю працу.**

Кіраўніцтва НІСВ дакладна выканала ўсе патрабаванні Міністэрства па афармленню дакументаў, але гэта не дапамагло. Не з'явілася аргументам для высокіх чыноўнікаў і рашэнне Рэспубліканскай атэстацыйнай камісіі даць ВНУ акрэдытацыю. Інстытут, які за пяць гадоў свайго існавання стварыў дастойную матэрыяльную базу, адрамантаваў занядбаны будынак рэстарана «Зубр», выпрацаваў свае праграмы, падабраў калектыў выкладчыкаў, цяпер на мяжы закрыцця. Студэнты ды іх бацькі ў роспачы: хутка першае верасня, дзе вучыцца?

Спакойна разбураючы тое, што само не будавала, Міністэрства адукацыі пры гэтым спрабуе паказаць высакароднасць і выдае загад аб пераводзе ўсіх студэнтаў НІСВ, канешне, па жаданню, у Гарадзенскі дзяржаўны універсітэт. Гэта хаця і ствярае для «дзяржаўнікаў» некаторыя праблемы, аднак прыносіць у яго касу дадатковы даход, бо навучанне студэнтаў у НІСВ платнае. Вось толькі розніца ў суме аплаты гэтых дзвюх ВНУ наступная: у НІСВ - 500 даляраў за семестр, а ў ГрДзУ - да 1100 даляраў. Шматвопытныя бацькі не вельмі вераць у абяцанні адміністрацыі універсітэта прыняць іх дзяцей у ВНУ на тых жа ўмовах, якія былі ў НІСВ, а плаціць болей многія не ў стане.

У аўторак, 24 жніўня, павінна была адбыцца сустрэча з прадстаўнікамі Міністэрства адукацыі РБ. У прыватнасці, у Гродна прыехаў намеснік начальніка камітэта па вышэйшай і сярэдняй адукацыі Б.Дашкевіч. Але ён не пажадаў прыйсці ў НІСВ. Увесь калектыў інстытута вымушаны быў для сустрэчы з ім перамясціцца ў галоўны корпус ГрДзУ. Не вельмі сябе турбуючы адказамі на пытанні прысутных, сп. Дашкевіч безапеляцыйна заявіў, што філіяла НІСВ ужо «не існуе, ён ліквідаваны». Студэнты, паўтарыў ён, могуць перайсці ва універсітэт. На пытанне адной супрацоўніцы ВНУ: «Чаму сп. Дашкевіч ні разу не наведаў інстытут; ці ведае Міністэрства, што яно закрывае?», апошні здзівіўся: «Ну што гэта за пытанне - ці быў я ў інстытуце?»

Жадаючы хутчэй расправіцца з няўгоднай (аднак з пасьпяхова развітай) навучальнай установай, міністэрскія чыноўнікі не грэбуюць нічым: пытанне з закрыццём ВНУ яшчэ не вырашана, яно знаходзіцца на разглядзе ў Адміністрацыі прэзідэнта. Акрамя таго, згодна са Статутам ВНУ, яго могуць ліквідаваць ці па рашэнню заснавальнікаў, ці па рашэнню суда.

Галоўнай прычынай варожасці Міністэрства адукацыі да Гарадзенскага НІСВ можна лічыць жаданне апошніх змяніць статус філіала на самастойную ВНУ. Вельмі ж вялікая самастойнасць і пасьпяховае развіццё не ў пашане ў высокіх чыноўнікаў, як вядома.

У гэтай сітуацыі можна зразумець студэнтаў, якім трэба быць упэўненымі, што яны ў гэтай палітычнай барацьбе не стануць ахвярамі. Ім трэба вучыцца. Са 1300 студэнтаў НІСВ каля 500 (у асноўным першакурснікі) усё ж падалі заявы ў ГрДзУ. Але дырэктарка Інстытута сучасных ведаў Дар'я Вацлаваўна Галубовіч не збіраецца здавацца. Тым болей, што ўсе законы знаходзяцца на яе баку.

**Ніна Палуцкая**

# Хлеба стала менш

**На Гарадзеншчыне фактычна завершана жніво-99: намалочана 860 тысяч тон збожжа, сярэдняя ўраджайнасць зерневых склала па вобласці 24,2 цэнтнера з гектара.**

Гэтыя лічбы значна саступаюць леташнім — адпаведна на 220 тысяч тон і 8 ц/га. Сярод прычынаў такога спада спецыялісты называюць, акрамя неспрыяльных умоў надвор'я, і тое, што глеба кепска была запраўлена арганічнымі ды мінеральнымі ўгнаеннямі, адчуваўся недахоп хімічных сродкаў для барацьбы са шкоднікамі палёў. Як паведаміў на прэс-канферэнцыі старшыня аблсельгасхарча Мечыслаў Касцюк, неабходна дадаткова купіць 250-300 тысяч тон зерня. Такія перамовы вядуцца, у прыватнасці, з расейскімі калегамі.

Сёлета, як ніколі, пра лёс ураджаю клапаціліся праваахоўныя органы. Напрацягу ліпеня-жніўня праводзілася міліцэйская аперацыя пад кодавай назвай «Аграрнік». Зафіксавана звыш 150 крадзяжоў, складзена каля тысячы пратаколаў, вернута ў бюджэт вобласці сродкаў на амаль два мільярды рублёў. Канчатковы аналіз вынікаў сельскагаспадарчага года яшчэ наперадзе.

**Антон Лабовіч**

# Рэйс Гродна - Менск затрымліваецца

**Праблемы з палівам, якія ўдарылі па аўтааматарам, не абмінулі і лётчыкаў. На табло гарадзенскага аэрапорта так і не з'явіўся расклад руху самалётаў па маршруце Гродна - Менск.**

Рэйсы з Гродна ў сталіцу, Гомель ды іншыя гарады Беларусі павінны былі пачацца з першага жніўня. Аднак у сувязі з энергетычным крызісам, што ахапіў Беларусь, ніводзін пасажырскі самалёт не ўзняўся з гарадскога аэрапорта. Беларуская авіякампанія «Тэхавіясэрвіс», з якой заключалася дамова на пералёты, прыпыніла супрацоўніцтва з лётчыкамі.

Як паведаміў Генадзь Кандакевіч, намеснік начальніка аэрапорта, «сітуацыя цяжкая. Калі пачнуцца палёты і ці пачнуцца наогул -невядома».

**Павал Мажэйка**

# «Тэмафа» Вам у дапамогу

**Да траўня 2000 года на Гарадзенскім вытворчым прадзільна-ніточным аб'яднанні ўстановяць новае тэхналагічнае абсталяванне для катанізацыі льнянога валакна нямецкай фірмы «Тэмафа».**

Для набыцця гэтага абсталявання Савет Міністраў Беларусі дазволіў прадпрыемству перадаць у залог ААБ «Беларусбанк» дзяржмаёмасці ды тэхналагічнага абсталявання ацэначным коштам 1 трыльён 281,428 мільярда рублёў для атрымання крэдыту ў памеры 3 мільёны 826,62 тысячы нямецкіх марак тэрмінам на шэсць гадоў. Як паведаміў галоўны інжынер аб'яднання Анатоль Грашкавяк, новае абсталяванне дазволіць перапрацоўваць ільноадыходы ў пражу, неабходную для вытворчасці трыкатажных, а таксама нятканых вырабаў (у прыватнасці, ушчыльнікаў для аўтамабільнай прамысловасці, якія карыстаюцца попытам на заходнім рынку).

Зараз пража, якую выпускае прадпрыемства, падыходзіць толькі для дывановых вырабаў. Паводле інфармацыі галоўнага інжынера, у 1998 годзе аб'яднанне перапрацавала 250 тон ільняных адыходаў, што дазволіла сэканоміць такую ж колькасць дарагой бавоўны. У першай палове гэтага года было перапрацавана 163 тоны адыходаў, а гадавы план складае 400 тон.

**Дзмітрый Уласаў**

 

# Пра перамовы з рэжымам і сытуацыю ў грамадзтве

**На жаль, працягваецца працэс развалу палітычнай дзейнасьці БНФ. 12 жніўня я выслаў спадару Л.Баршчэўскаму тэзысы ўмоваў, пры якіх Фронт мог бы ўдзельнічаць у перамовах з рэжымам, прасіў хутка абмеркаваць пытаньне і прыняць рашэньне.**

Аднак прапановы не абмяркоўвалі. Быў падпісаны канфармісцкі «мэмарандум» з штучнымі ды надуманымі палажэньнямі аб перадачы паўнамоцтваў на зацьвярджэньне складу дэлегацыяў і «мандату» на перамовы «Вярхоўнаму Савету».

Неабдуманы падыход да перамоваў і пасьпешныя дзеяньні могуць увавіць Фронт у новае балота і канчаткова паралізаваць яго дзейнасьць.

Толькі людзі, якія нічога ня ведаюць пра тое, што адбываецца на Беларусі, маглі б ня бачыць і не разумець, што пачынаецца новая гульня ўжо знаёмых нам асобаў - майстроў фальшывых прэзыдэнцкіх выбараў і датэрміновага галасаваньня. Гэтая гульня (калі яе прафінансуюць, і калі БНФ прыме яе ўмовы) патопіць ня толькі Фронт, але і ўсю дэмакратычную «апазіцыю», разам з творцамі новых лукашэнак і спажывальнікамі грантаў усіх масьцяў уключна.

Неабходна пераглядзець умовы нашага ўдзелу ў перамовах з рэжымам і выразна іх сфармуляваць. Пазыцыю, падпісаную ў «мэмарандуме», трэба разглядаць толькі як папярэдняе меркаваньне.

Напачатку неабходна вызначыць агульную плятформу апазыцыйных партыяў у перамовах. Бо на Беларусі ёсьць дзьве апазыцыі. Адна -нацыянальна-вызвольная (Беларускі Вызвольны Рух на чале з БНФ) і другая - намэнклятурная (каляніяльная), якая выступае пад назовам «Дэмакратычная апазыцыя» ці «Демократические силы».

Беларускі Вызвольны Рух выступае за дэмакратычныя перамены, за ліквідацыю рэжыму Лукашэнкі, супраць «інтэграцыі» ды любых саюзаў з Расеяй. Беларускі Вызвольны Рух ставіць задачу пабудовы беларускай дзяржавы зь беларускай адміністрацыяй, беларускай уладай і беларускай культурай у сыстэме эўрапейскай геапалітыкі ды хрысьціянскіх каштоўнасьцяў Эўропы.

Беларуская намэнклятурная апазыцыя («дэмакратычныя сілы») выяўляе погляды каляніяльнай адміністрацыі ды бачыць галоўную задачу ў зьмене рэжыму і прыходу да ўлады. Фактычна, гэта адна палітычная сыстэма, дзе ўлада і «апазыцыя» павінны зьмяняць адна другую і захоўваць погляды чужых адміністрацыйных выканаўцаў. Яны таксама дзяржаўнікі, але ўяўленьні пра характар, ролю і прызначэньне беларускай дзяржавы, пра развіцьцё і будучыню беларускай нацыі, пра ролю беларускай мовы і культуры ў гэтым развіцьці ў іх дэкляратыўныя і вельмі агульныя. Пры канкрэтным падыходзе яны лёгка ператтвараюцца ў процілегласьць іхным заявам і дэклярацыям. Яны ня бачаць пэрманэнтнай небясьпекі збоку Расеі, гатовыя заключаць зь ёй саюзы і супрацоўнічаць «с Россией демократической».

Інтарэсы дзьвюх апазыцыяў супадаюць у непрыняцьці рэжыму Лукашэнкі ды розьняцца ў поглядах на характар беларускай дзяржавы і на адносіны з Расеяй.

Менавіта таму каляніяльная апазыцыя скрыта (а часам і адкрыта) варожая Беларускаму Народнаму Фронту (зь якім імкнецца мець дачыненьні), а Беларускі Народны Фронт насьцярожаны да намэнклятурных апазыцыянераў.

Сіла нацыянальна-вызвольнага руху ў нацыянальнай ідэі, у падтрымцы яго грамадзтвам, у арганізацыйных структурах.

Сіла намэнклятурных дэмакратаў - у так званым незалежным (недзяржаўным) друку, які (як і пры Саветах) працягвае існаваць у стылі прапаганды і практычна ўвесь (зь невялікімі выключэньнямі) выяўляе погляды каляніяльнай апазыцыі ды выдаецца па-руску.

Невыпадкова, што прадстаўнікі намэнклятурнай апазыцыі, і асабліва «незалежны» друк, адыгралі неапошнюю ролю ў ахайваньні ды расколе Народнага Фронту. Асабліва гэта было відавочна ў час фальсіфікатарскай кампаніі галасаваньня на выбарах прэзыдэнта ў траўні гэтага году.

Пры плянаваньні дачыненьняў і супрацоўніцтва неабходна разьлічваць сумесную справу не па колькасьці фармальных арганізацыяў, а зыходзіць з існаваньня дзьвюх апазыцыяў на Беларусі.

Перамовы з рэжымам павінны пачацца з высьвятленьня прыналежнасьці да апазыцыі (па адпаведных крытэрыях) і будавацца паводле прынцыпа 1:1. Гэта значыць, што калі, напрыклад, з васьмі партыяў-удзельнікаў перамоваў шэсьць будуць стаяць на плятформе каляніяльнай апазыцыі, а дзьве - на нацыянальна-вызвольнай плятформе, то колькасьць прадстаўнікоў павінна суадносіцца, як 6:6 (пароўну з аднаго і з другога боку). Інакш перамовы ня маюць сэнсу. Я заўсёды паказваў на намэнклятурнае шулерства ў гэтым пытаньні ды заклікаў спыніць яго як найхутчэй, ня бавіцца ў фантомы і ўяўнае прадстаўніцтва.

Зараз - пра пазыцыю БНФ:

- умовы нашага прапарцыйнага ўдзелу ў перамовах трэба пераглядзець. Павінна быць прынятая схема 1:1;

- суб'ектамі перамоваў павінны зьяўляцца палітычныя партыі, якія знаходзяцца ў апазыцыі да рэжыму і маюць структуры па ўсёй Беларусі (ва ўсіх абласьцях) альбо фракцыі ў Вярхоўным Савеце;

- мандат на ўдзел партыяў у перамовах фармальна павінен даваць выконваючы абавязкі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь Сымон Шарэцкі -цалкам законная і легітымная фігура ў сыстэме беларускай улады;

- група апазыцыйных дэпутатаў, якая прадстаўляе Вярхоўны Савет, можа выпучыць на перамовы свайго прадстаўніка, але не кіраваць перамовамі, і тым болей «зацьвярджаць» партыйных прадстаўнікоў. У гэтым няма патрэбы, калі будзе мандат ад в. а. прэзыдэнта. Ні на якім этапе ў перамовах ня можа ўдзельнічаць дэпутат В.Ганчар, які скампраметаваў сябе на пасадзе старшыні ЦВК (сфальсіфікаваў галасаваньне і праваліў прэзыдэнцкія выбары);

- Народны Фронт выступае за выбары толькі ў аднапалатны парлямант, згодна з новым мажарытарна-прапарцыйным (50:50) Законам аб выбарах, які прыняты спэцыяльна створаным канстытуцыйным ворганам;

- стварэньне спэцыяльнага канстытуцыйнага воргану - тэма перамоваў;

- спэцыяльны канстытуцыйны орган павінен прыняць два законы: «Аб выбарах у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь» і «Аб Вярхоўным Савеце».

Умовы, пры якіх могуць адбывацца перамовы, павінны быць выразна сфармуляваныя. Прапаную наступныя ўмовы:

- спыненьне палітычных рэпрэсіяў, арыштаў, нападаў міліцыі на людзей;

- вызваленьне палітвязьняў;

- спыненьне палітычных перамоваў і дзеяньняў па інтэграцыі з Расеяй;

- свабодны доступ апазыцыйных партыяў да сродкаў масавай інфармацыі (тэлебачаньне, радыё, друк);

- адкласьці перарэгістрацыю арганізацыяў, што ўдзельнічаюць у перамовах, да заканчэньня перамоваў.

Для перагляду ўдзелу БНФ у перамовах і для прыняцьця нармальных умоваў і прынцыпаў перамоваў, Фронт павінен стварыць спэцыяльную дэлегацыю, у якую я прапанаваў бы ўключыць групу фронтаўцаў: Міколу Анцыповіча, Лявона Баршчэўскага, Юрыя Беленькага, Вінцука Вячорку, Мікалая Крукоўскага, Сяргея Папкова, Уладзімера Старчанку. Кіраўніком групы прапаную Юрыя Беленькага (яго намесьнік - Уладзімер Старчанка). Сябры групы павінны сустрэцца з прадстаўнікамі партыяў і ўдзельнічаць у перамовах.

На мой погляд, уся папярэдняя падрыхтоўка да працэсу перамоваў збоку БНФ была праведзена нездавальняюча. Трэба выпрaвіць становішча і зрабіць нязробленае.

Удзел у перамовах паводле таго зьместу і на тых умовах, якія прынятыя зараз, для Фронту недастатковыя. Нас могуць уцягнуць у ганебную справу, калі пад выглядам пошука кампрамісу (за кошт прынцыпаў), крок за крокам будзе прызнавацца легітымнасьць рэжыму, яго правілы, «дэкрэты» і незаконныя структуры. Каляніяльная псыхалёгія адпаведных апазыцыянераў падрыхтавaная ўжо да гэтай «паўзучай» палітыкі - абы была бачнасьць руху да ўлады. Калі б сёньня Лукашэнка аб'явіў выбары ў «палату», то большая палова дэмакратычных «перамоўцаў» (калі ня ўсе) кінулася б удзельнічаць у выбарах. Хіба нядаўнія прэзыдэнцкія выбары «апазыцыі» ўжо не паказалі такіх паводзінаў, калі ўсе «дэмакраты» і частка фронтаўскіх канфармістаў тут жа пайшлі служыць Ганчару, падтрымліваць «вялікага дэмакрата» Чыгіра і залезьлі ў такі бруд, зь якога давялося выйсьці толькі коштам вялікіх ахвяраў. Але, відаць, нічога ня вучыць некаторых нашых калегаў.

Думаю, што сябрам БНФ і Партыі БНФ варта было б абмеркаваць праблемы, зьвязаныя зь перамовамі. Я не выключаю, што непрапарцыйнае прадстаўніцтва апазыцыі ў перамовах, прынцыповая нявызначанасьць па некаторых пытаньнях могуць стварыць абставіны, калі Фронт ня зможа і не павінен мець дачыненьні да сумнiўнай працы. Але пры разумным і прынцыповым падыходзе можна было б весьці на перамовах беларускую вызвольную палітыку.

Галоўная наша палітыка, аднак, павінна рухацца за мяжой перамоваў. Мы павінны стварыць структуры дзяржаўнага самакіраваньня грамадзкага кшталту ў дапамогу і ў падтрымку выконваючаму абавязкі Прэзыдэнта, парляманту і перамоўнаму працэсу. Павінна быць створаная такая сыстэма апазыцыі, каб у любы час народ мог на яе абаперціся. Трэба даць апору людзям, стварыць ім канкрэтным, структурным і арганізацыйным чынам. Да гэтага я ўвесь час заклікаў і заклікаю Беларускі Народны Фронт.

**Зянон Пазьняк,**
**Старшыня БНФ Адраджэньне,**
**18 жніўня 1999 г.**

**23 жніўня адбылося чарговае паседжаньне Управы Партыі БНФ. Сябрамі Управы былі прынятыя рашэньні:**

**1. Стварыць і зацьвердзіць групу для ўдзелу ў перамоўным працэсе з выканаўчай уладай пад эгідай АБСЭ ў складзе: Мікола Анцыповіч, Лявон Баршчэўскі, Вінцук Вячорка, Мікалай Крукоўскі, Сяргей Папкоў, Уладзімер Старчанка, Валерый Буйвал. Кіраўнік групы - Юрый Беленькі.**

**2. Дадаць у «Асноўныя палажэньні плятформы апазыцыйных палітычных партыяў Рэспублікі Беларусь на перамовах з выканаўчай уладаю пры пасярэдніцтве АБСЭ» наступнае: «Абавязковай умоваю магчымасьці нашага ўдзелу ў перамовах павінна стаць спыненьне збоку выканаўчых уладаў дзеяньняў па ліквідацыі суверэннай беларускай дзяржаўнасьці, якія супярэчаць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь».**

# Шарэцкі «звергнуў» Лукашэнку

**Заяву ад імя старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га скліканьня зрабіў 23 жніўня на прэс-канферэнцыі ў Вільнюсе Сямён Шарэцкі. Згодна з ёй, усе дакументы, падпісаныя Аляксандрам Лукашэнкам пасля 20 ліпеня 1999 года, не маюць юрыдычнай сілы.**

У заяве гаворыцца пра тое, што 20 ліпеня 1999 года закончыўся законны тэрмін знаходжання ва ўладзе Аляксандра Лукашэнкі. «Аднак, працягваючы незаконна ўтрымліваць уладу, ён і надалей прадпрымае намаганні па аб'яднанні Рэспублікі Беларусь з Расейскай Федэрацыяй у адну дзяржаву, прэзідэнтам якой ён усё яшчэ марыць стаць, — сцвярджаецца ў заяве. — З другога боку, і некаторыя расейскія палітыкі пачалі заяўляць аб тым, што ў Беларусі ў іх ёсць нейкія стратэгічныя інтарэсы, не пытаючыся пры гэтым у беларускага народа аб яго стратэгічных інтарэсах...»

На прэс-канферэнцыі Сямён Шарэцкі паведаміў журналістам, што ў нядзелю, 22 жніўня, у яго адбылася сустрэча з кіраўніком кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Беларусі Хансам-Георгам Вікам, які прыязджаў у Вільнюс. Паводле словаў старшыні Вярхоўнага Савета, ён дамовіўся праз 10 дзён зноў сустрэцца са спадаром Вікам, каб прадоўжыць абмеркаванне праблемаў, якія ўзнікаюць пры падрыхтоўцы перамоўнага працэсу паміж афіцыйнымі ўладамі ды апазіцыяй.

**Уладзімір Глод**

# Размовамі пра перагаворы апазіцыю, хутчэй за ўсё, уводзяць у зман

**Дыктатура і аўтарытарызм трымаецца, як усе мы ў чарговы раз пераканаліся, на страху і хлусні. Як гэта пафасна не гучыць, але праўдзівае слова, сказанае адкрыта, вокамгненна пазбаўляе дыктатуру яе сілы. Нездарма ў Беларусі на дзяржаўных СМІ вось ужо каторы год цуруюцца праўды. Яе замянілі дэзінфармацыяй, «дэзой» (паводле жаргона спецслужбаў), якая лепіцца ў поўнай адпаведнасці з распрацаванымі гэтымі органамі метадамі так званай псіхалагічнай альбо ідэалагічнай вайны.**

Вось чаму галоўнай умовай правядзення перамоваў з рэжымам апазіцыя вылучае доступ да дзяржаўных СМІ, якія з'яўляюцца ў Беларусі самымі масавымі і тыражнымі. Хацелася б памыліцца, але рэжым ніколі не пагодзіцца на падобныя патрабаванні. Вылезе, напрыклад, у тэлевізар прафесар С.Багданкевіч і простымі словамі растлумачыць, чаму растуць цэны і хто на гэтым «робіць бабкі». Потым з'явіцца В.Шчукін і з фактамі ў руках раскажа пра сапраўднае аблічча карных інстанцыяў. За імі можа аб'явіцца які-небудзь недабіты бізнесмен ці банкір з тым, каб распавесці пра паборы афіцыйныя і хабары нелегальныя - пра аграмадныя, дарэчы, грошы. А што, калі па «яшчыку» пакажуць самога Мірона?! А Славаміра Адамовіча, Аляксея Шыдлоўскага, Алеся Пушкіна, Васіля Быкава?!.. Тут яшчэ раздухарыцца хтосьці з апальных міністраў ці вертыкальшчыкаў эпохі «недадыктатуры» - і гэтым ёсць на што раскрыць вочы народу. Затым закамплексуе хто-небудзь з мясцовых «генералаў калугіных» ці «агентаў глыбокага ўкаранення».

Лясне ўсё, што так упарта будавалі зампаліты-палкоўнікі, камандзіры індустрыі прапаганды і сацыяльнай маніпуляцыі. Людзі пачнуць абмяркоўваць. Згубяць страх. Чыноўнікі - тыя наадварот: страшэнна перапалохаюцца. Бо за словамі апазіцыі замаячаць будучыя разбіральніцтвы і крымінальныя справы; суд гісторыі, як кажуць, з канфіскацыяй і люстрацыяй. Пачнуцца масавыя хістанні, закулісныя здзелкі, продаж рэжыму гуртам і ў розніцу. Жарсці падхопяць расейскія каналы, распісаныя як адзін за алігархамі ды іншымі «сябрамі» беларускага рэжыму...

Затым апазіцыя ў сваёй Платформе, падтрыманай асноўнымі палітычнымі партыямі, патрабуе справядлівых выбараў. З адпаведным заканадаўствам і поўнай адкрытасцю пры рэгістрацыі і падліку галасоў. А інакш Еўропа з Амерыкай зноўку не прызнаюць парламент Беларусі. У дэпутаты папхнуцца гаваркія ліберылы, суровыя бэнээфаўцы і багатыя «новыя беларусы». Без заканадаўчага абмежавання і фальсіфікацыяў хто іх спыніць? А, галоўнае, навошта? Белы свет у Беларусі клінам не сышоўся...

Далей, апазіцыя патрабуе амністыі палітвязням і спынення «беспредела» карных органаў. За амністыяй паследуе рэабілітацыя, а наўздзенне законнасці ў дзеяннях «органаў» развяжа рукі арганізатарам мітынгаў, пікетаў, дэманстрацыяў і страйкаў. У Менск цягнікамі з'едуцца незадаволеныя з усёй краіны. На вуліцы выйдуць сотні тысяч. Пачнуць дудзець у свісткі, крычаць «Жыве Беларусь!» і тыкаць у нос «антыпрэзідэнцкія лозунгі». А аддаць загад выдавіць ім вочы -нельга...

Таму ў дыялог апазіцыі ды рэжыма не верыцца. Вось каб замест пана Віка «ўрэгуляваннем канстытуцыйнага крызісу» заняўся пан Салана, магчымасць чаго спрагназавалі ў першую чаргу савецкія нашага рэжыма і вядомы расейскі думскі правакатар Ільюхін, тады не было б куды дзявацца. У адваротным выпадку трэба прадбачыць, што гульні ў перамовы - спроба зацягнуць час і прыкрыць восеньскі аншлюс Беларусі Расіяй.

**Сяргей Самасей**

# Уступаць туды, дзе ўжо была, Украіна больш не збіраецца

**Прэзідэнт Украіны Леанід Кучма лічыць, што Украіне няма неабходнасці ўваходзіць у Саюз Расіі ды Беларусі.**

На прэс-канферэнцыі, якая адбылася напрыканцы мінулага тыдня, ён падкрэсліў, што «Украіна ўжо была ў саюзе, і вяртацца да яго не да месца». Адначасова, кіраўнік украінскай дзяржавы падкрэсліў, што Расія застаецца стратэгічным партнёрам Украіны і, нягледзячы на галасы «як злева, так і справа», трэба жыць з ёю «ў міры, любові і згодзе і будаваць свае адносіны на раўнапраўных прынцыпах». Прэзідэнт Украіны лічыць, што сёння Расія не можа не быць донарам, крэдытoрам для Украіны. «Аднак я перакананы, —сказаў Л.Кучма, — што яна стане на ногі, паколькі валодае найбольшымі прыроднымі рэсурсамі».

Л.Кучма перакананы, што Расія не ў стане ўтрымліваць Беларусь, паколькі яшчэ 10 мільёнаў беларускіх грамадзян будуць цяжарам для расейскага бюджэту. «Сёння ніхто не адказаў: што такое саюз? Гэта адна дзяржава ці канфедэрацыя? — сказаў Л.Кучма. — Калі гэта адна дзяржава, то ці згадзіцца на гэта Аляксандр Лукашэнка і расейскія рэгіёны, паколькі Беларусь будзе мець значна больш паўнамоцтваў, чым расейскія аўтаноміі». «Я лічу, — сказаў Л.Кучма, — што пытанне аб славянскім саюзе з'яўляецца палітычным».

**Ул. інф.**

# Бомба для студэнтаў

**Усё пачынаецца вельмі бяскрыўдна. Праяўляючы клопат пра студэнтаў і народ і па іх настойлівых просьбах Савет Міністраў РБ сваёй пастановай N276 ад 2 красавіка 1997 года п.1 увёў з 97/98 навучальнага года абавязковае размеркаванне выпускнікоў дзяржаўных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установаў, за выключэннем тых, хто вучыцца на платнай аснове. Добрыя пажаданні, запярэчыць няма чаго. На п.5 гэтага дакумента даручана Міністэрству адукацыі, Міністэрству фінансаў сумесна з аблвыканкамамі і па ўзгадненню з зацікаўленымі рэспубліканскімі органамі дзяржаўнага кіравання да першага жніўня 1997 года вызначыць меры заахвочвання выпускнікоў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установаў, якіх накіроўваюць на працу ў раёны, пацярпелыя ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**

Гэтым самым цяперашняе кіраўніцтва рэспублікі аддае інтэлект нацыі заўтрашняга дня за сваю няздольнасць вырашаць Чарнобыльскую праблему напрацягу 13 гадоў. Атрыманне дакумента паспяхова выканана, вызначана даплата маладым спецыялістам у 75 мінімальных заробкаў за тры гады. Вось якім чынам ацэнена здароўе людзей.

Выплата ўведзена нібыта для замацавання спецыялістаў, але ўжо на чацвёрты год «трунныя» выплаты не прадугледжаны. Аўтары дакумента разумеюць - такіх не будзе, а давядзецца засылаць новы кантынгент.

Чарнобыльцы ўжо сёння могуць шмат расказаць аб тым, як дзяржава клапоціцца пра іх. Так і тут: выпʼюць кроў - потым выкінуць.

У нетрах міністэрстваў і ведамстваў ідзе бесперапынная праца па падрыхтоўцы новых дакументаў, якія павінны вырашаць чарнобыльскую праблему. У чыноўнікаў ёсць мара - абʼявіць аднойчы, што Чарнобыля нагогул не было. Міністэрства аховы здароўя, як самае перадавое ў барацьбе за здароўе народа, кіруючыся загадам N104, значна абмежавала доступ чарнобыльцам да медычнай дапамогі, і сёння падрыхтаваны наступны дакумент, які вырашае гэтую праблему. Тыя, хто меў 18-ы артыкул па закону «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС», ужо амаль вымерлі ці вымруць у хуткім часе, а ўсе астатнія будуць абвешчаны здаровымі ды знятыя з медычнага ўліку.

Хаця, здавалася б, - каму як не медыкам ведаць пра тыя наступствы для здароўя людзей, што прынёс Чарнобыль.

Сабраныя за гады пасля Чарнобыльскай катастрофы шматлікія дадзеныя эпідэміягалічных лабараторый ды іншых даследаванняў пераканаўча адлюстроўваюць небяспечны ўплыў малых дозаў радыяцыі на здароўе людзей і стан навакольнага асяроддзя. Высвятляецца, пры апраменьванні да 0,1 калькасць смяротных лейкозаў зʼяўляецца настолькі ж значнай, як і пры апраменьванні шматкратна большым. Пашкоджанні храмасомаў і злаякасная трансфармацыя клетак пры малых дозах прыкладна на парадак вышэй, чым можна было чакаць пры ўплыве высокіх дозаў. Малыя дозы радыяцыі парушаюць нармальнае фармаванне цэнтральнай нервовай сістэмы падчас развіцця плода ва ўлонні мацеры. Гэты эфект можа стацца самым страшэнным для бліжэйшых пакаленняў людзей, што жывуць на радыяктыўна забруджаных тэрыторыях. Спецыялісты абагульнілі матэрыялы па Беларусі ды заўважылі павелічэнне частаты бясплоднасці на забруджаных тэрыторыях у 5,5 раза. Пасля апраменьвання невялікімі дозамі цяжарным жанчынам пагражае выкідыш, рэзка ўзрастае колькасць спантанных абортаў і мёртванароджаных.

Нельга дапусціць сёння гэты чынавенскі «беспредел». Толькі абʼядноўваючы намаганні, чарнобыльцы могуць абараніць свае права на жыццё.

А сённяшнім студэнтам хочацца пажадаць: «Пільнымі будзьце!»

**Ліквідатар**




# Субʼектаў гаспадарання ў чарговы раз «парэзалі»

**Сёлета Гарадзенскі гарвыканкам прыняў рашэнне аб ліквідацыі 100 субʼектаў гаспадарання, якія не выканалі патрабаванняў Дэкрэта «Аб упарадкаванні дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі (спынення дзейнасці) субʼектаў гаспадарання». Адпаведныя хадайніцтвы былі прадстаўленыя інспекцыямі гарадскога падатковага камітэта, Ленінскага і Кастрычніцкага раёнаў абласнога цэнтра.**

Усяго ў Гродне налічваецца 917 прадпрыемстваў малога і сярэдняга бізнесу. Загадчык юрыдычнага аддзела гарвыканкама Валерый Шаніла, каментуючы рашэнне ўладаў, адзначыў, што яны не прагнуць ліквідацыі прадпрыемстваў розных форм уласнасці: там створаны рабочыя месцы, дзе працуюць ад трох да 15—20 чалавек, занята 18,3 працэнта агульнай колькасці працуючых горада; падаткі ды іншыя плацяжы дасягаюць 10,3 працэнта мясцовага бюджэту. Уласнікам даецца магчымасць разабрацца ў сваіх справах, выплаціць падаткі. І толькі гаспадарчы суд можа прызнаць субʼекты гаспадарання, паводле іх заяў, банкрутамі з далейшым продажам наяўнай маёмасці.

**Антон Лабовіч**

# Прырода знаходзіцца ў закладніках у чыноўнікаў

**Нашы прадпрыемствы рэдка праяўляюць ініцыятыву ў будаўніцтве ачышчальных збудаванняў: справа гэтая накладная, а дадатковага прыбытку ад іх няма ніякага. У многіх развітых краінах добрасумленным у адносінах да аховы прыроды ўладальнікам фабрык і заводаў зніжаюць суму экалагічных збораў. Мы такога правіла не маем, хоць і ёсць экалагічныя падаткі. Куды ж накіроўваюцца сродкі, што былі сабраныя на гэтыя мэты?**

Згодна з папярэднімі падлікамі спецыялістаў з Гарадзенскай гарадской інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, на спецрахунак іхняга фонда напрацягу 1999 года павінна было паступіць амаль 65 мільярдаў беларускіх рублёў. 20 працэнтаў гэтых грошай планавалася патраціць на рамонт лабараторыі, а астатнія - на розныя прыродаахоўчыя мерапрыемствы ў горадзе. У тым ліку і на будаўніцтва ачышчальных збудаванняў на Гарадзенскім скурабʼяднанні, якія павінны абысціся ў 35 мільярдаў беларускіх рублёў паводле каштарыснай вартасці. (А з улікам пастаяннага падаражання работ і матэрыялаў абыдуцца не менш чым у 50 мільярдаў беларускіх рублёў). Аднак збудаванні такога кшталту неабходныя не толькі заводу, але і гораду: адыходы скуранай прамысловасці настолькі агрэсіўныя (спалучэнні хрома ды іншых цяжкіх металаў, сульфаты і г. д.), што разʼядаюць жалезабетонны калектар на шляху да гарадскіх ачышчальных. Скурабʼяднанне павінна было атрымаць з прыродаахоўнага фонда 8,8 мільярда беларускіх рублёў. Аднак з гэтай сумы пералічана толькі 0,5 мільярда.

Дарэчы, гарадскія ачышчальныя збудаванні таксама даўно патрабуюць рэканструкцыі ды пашырэння. Калі гэтага не рабіць, то ніхто не зможа гарантаваць чысціню Нёмана ніжэй Гродна, куды скідваецца вада пасля ачысткі. Паводле звестак з Гарадзенскай гарадской інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, на рэканструкцыю гарадскіх ачышчальных збудаванняў неабходна 16 мільярдаў беларускіх рублёў. Якой бы вялікай гэтая сума ні здавалася, аднак яна непараўнальная са штрафнымі санкцыямі ад літоўцаў. І якія ж санкцыі прадʼявяць нашы суседзі, калі аднойчы раптам знойдуць у нёманскай вадзе на сваёй тэрыторыі, якая толькі ў 40 кіламетрах ніжэй Гродна, значныя перавышэнні канцэнтрацыі шкодных рэчываў? За кошт грошай прыродаахоўчага фонда (6 мільярдаў рублёў) планавалася пачаць будаўніцтва новага гарадскога палігона адыходаў (звалка). Аднак будаўніцтва яшчэ не пачыналася, у той час як на месцы цяперашняй звалкі ўжо цэлы «эверэст» з хлама.

Прычына ўсяго гэтага вельмі простая: грошы, якія мэтанакіравана ідуць на вырашэнне экалагічных праблемаў, безнадзейна «тонуць» у агульным катле, гэта значыць бюджэце. Не ведаючы, што адказваць кіраўнікам прадпрыемстваў, якія перыядычна нагадваюць гарадской прыродаахоўчай інспекцыі пра абяцаныя грошы, Ірына Алёхіна - яе начальнік і, па сутнасці, законны распараджальнік фонда - у сваю чаргу тэлефануе ў гарвыканкам, дзе ёй распавядаюць пра складаную сітуацыю з бюджэтам і просяць пачакаць. Кола замыкаецца. А інфляцыя тым часам бязлітасна зʼядае сумы, што былі пазначаныя ў планах пачатку года.

**Ніна Палуцкая, БДГ**

# «Еўрарэгіён «Нёман»-99»

**20 жніўня Гродна наведалі члены Савета еўрарэгіёну «Нёман» і прадстаўнікі адміністрацыі Марыямпольскага раёна Літоўскай Рэспублікі.**

З іх удзелам у аблвыканкаме сумесна з прадстаўнікамі выставачнага цэнтра «Белэкспа» вяліся перамовы па арганізацыі выставы-кірмашу «Еўрарэгіён "Нёман"-99». Яна пройдзе ў Гродне 20—23 кастрычніка. Гэта будзе першая спроба паказаць эканамічныя магчымасці краінаў, рэгіёны якіх уваходзяць у склад еўрарэгіёну Беларусі, Літвы, Польшчы ды Расіі. Польскі бок ужо даў згоду на свой удзел у выставе. Літоўцы таксама выказалі зацікаўленасць у гэтым.

**Ася Куніцкая**

# Займіце сябе самі!

**Учора ў Навагрудку завяршыўся двухдзённы семінар «Развіццё самазанятасці беспрацоўных і слабаабароненых грамадзянаў як аснова актыўнай палітыкі на рынку працы ва ўмовах фарміравання сацыяльна арыентаванай рынкавай эканомікі». Пра гэта паведамілі ў прадстаўніцтве Праграмы развіцця ААН.**

Семінар прайшоў у межах праекту «Барацьба з беднасцю праз садзейнічанне развіццю самазанятасці на аснове прыносячых даход відаў дзейнасці» пры тэхнічнай падтрымцы ПРААН, Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) і Камітэта па занятасці пры Міністэрстве працы Беларусі. Галоўнай мэтай мерапрыемства зʼявілася выпрацоўка рэкамендацый для фармулявання палітыкі і плану дзеянняў па прадухіленні беднасці. Удзельнікамі семінару сталі прадстаўнікі ПРААН, МАП, Сусветнага банка, Міжнароднага цэнтра па модульным навучанні (Масква), Нацыянальнага сходу Беларусі, Беларускага саюза прадпрымальнікаў і арэндатараў, Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь, Камітэта па занятасці насельніцтва, кіраўнікі ды спецыялісты Дзяржаўнай службы занятасці. Удзельнікі семінару прадставілі распрацаваны ў межах праекту падыход па прыцягненні мясцовых інстытутаў да планавання, распрацоўкі і выканання праграм навучання ў галіне самазанятасці ды арганізацыі прыбытковых відаў дзейнасці .

**Юрый Шырокі**

# Крыніца сатыры і гумару!

**Апошнім часам замест расейскага папсовага гумару па TV-каналах лепш чытаць дзяржаўную прэсу.**

Бярэш, напрыклад, нумар адной нашай мясцовай газеты за 12 жніўня. Увагу прыцягвае анонс «Як дбаюць аб кармах у Ваўкавыскім раёне». Цікава - як жа «дбаюць аб кармах» (дзе вы, беларускія мовазнаўцы?). Аказваецца, замест таго, каб браць травы на лугах, іх вырошчваюць на раллі. Пустазелле косяць, ці што?..

Крыху ніжэй - паведамленне пра тое, што ў «рэспубліцы распрацавана праграма па забеспячэнню насельніцтва ўласным раслінным алеем». Асноўнай «праграмнай» сыравінай вызначаны рапс. «На жаль, - скардзіцца газета, -яравы рапс не дае пажаданай ураджайнасці, а азімы нярэдка вымярзае». Ну і файную ж праграму «распрацавалі ў рэспубліцы»! Рапс або вымерзне, альбо не вырасце. Зальемся алеем: палову засмажым, палову «зʼямо з кармамі»...

А адкрывае першую старонку інфармацыя на злобу дня пад рубрыкай «Што новага ў вобласці». Новае, чытаем, тое, што зноў знік бензін, хаця, як адзначаецца, усё гэта «ча-



сова». На гэтым тыдні «кіраўнік абʼяднання «Гроднааблнафтапрадукт» збіраецца выехаць у Менск і Маскву, дзе будзе, - просім звярнуць увагу, што ён там будзе рабіць, -прапрацоўваць варыянты паляпшэння сітуацыі з забеспячэннем вобласці бензінам і дызельным палівам». У рэдакцыі мы вырашылі, што ён павязе туды парачку-другую пустых каністраў: тры - на бензін і адну - на дызельнае паліва.

А то яшчэ можна даведацца, што «фірмовы гандаль у нас пакуль не на вышыні». Пра якія вышыні гаворка - ці не пра «пік Камунізма»? І пра які «фірмовы гандаль»? А калі ёсць «фірмовы», то ўвесь астатні, ён што - «левы»?..

Парадавала тое, што «неба Беларусі надзейна абаронена», нягледзячы на «недахоп фінансавання». Прыемна ўразіла адсутнасць у газеце аднаго папулярнага ў пэўных колах прозвішча. Адным словам - чытайце, не сумуйце!

**Альфрэд Хокхіч**

# Бірукова зноў будзе святкаваць

**18 чалавек склалі аргкамітэт Гарадзенскага аблвыканкама па святкаванні 60-годдзя ўзʼяднання Заходняй Беларусі з БССР. Узначаліла працу па рэалізацыі зацверджанага плана мерапрыемстваў намеснік старшыні абласнога выканаўчага камітэта Марыя Бірукова.**

Згодна з планам, 16 верасня ў гарадскім драмтэатры адбудзецца ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае гэтай гістарычнай даце. Ад кожнага раёна вобласці запрошана дэлегацыя ў колькасці дзесяці чалавек. Адпаведныя сходы пройдуць таксама ў гарадах і паселішчах. Ужо добраўпарадкоўваюцца архітэктурныя помнікі, мемарыяльныя знакі, рыхтуюцца адпаведныя тэматычныя выставы ў бібліятэках і музеях. Раённыя газеты і абласное тэлерадыёабʼяднанне распавядаюць пра падзеі тых часоў. У Гарадзенскім дзяржуніверсітэце імя Янкі Купалы будзе праведзена міжнародная канферэнцыя гісторыкаў. Тэма «Значэнне ўзʼяднання Усходняй і Заходняй Беларусі для развіцця беларускай дзяржаўнасці» стане асноўнай падчас правядзення «круглага стала» з удзелам прадстаўнікоў палітычных партый, рухаў і грамадскіх арганізацый.

Падрыхтоўкай свята занятыя ўпраўленні аблвыканкама; грамадска-палітычнай інфармацыі і друку, арганізацыйна-кадравай працы, адукацыі, культуры, фізічнай культуры, спорту і турызму, камітэт па справах моладзі аблвыканкама, гар- і райвыканкамы, мясцовыя СМІ, Савет ветэранаў і абласная арганізацыя таварыства «Веды».

**Антон Лабовіч**

 



# Катэджы прадаюцца марудна

**Як і абяцала ПАГОНЯ, сёння мы працягваем агляд рынка нерухомай маёмасці. На гэты раз паразважаем наконт куплі-продажу дамоў і катэджаў.**

Вы ўжо ведаеце з папярэдніх артыкулаў у нашай газеце, што сёння рынак нерухомай маёмасці перажывае цяжкія часы: з пачатку 1996 года абарот знізіўся прыкладна ў чатыры разы. Не з'яўляецца выключэннем і сітуацыя з продажам дамоў і катэджаў. Паводле інфармацыі агенцтва «Арбіта», колькасць здзелак па куплі-продажу дамоў і катэджаў у параўнанні са студзенем-чэрвенем 1996 года знізілася ў пяць з паловай разоў.

У сувязі з вельмі нізкім попытам (можа, попыт і з'явіўся б, ды няма грошай) рэзка знізіўся кошт. Калі на кватэры цана ў параўнанні з 1996 годам знізілася на 20-30 працэнтаў, то на дамы і катэджы - на 35-40 працэнтаў. Прычым, працэс працягваецца.

Як і тры гады таму, кошт дома залежыць:

1) ад месцазнаходжання (як у самім горадзе, так і ў прыгарадзе);
2) ад падрыхтаванасці;
3) ад памеру ўчастка;
4) ад тыпу дома;
5) ад колькасці паверхаў;
6) ад плошчы (як жылой, так і агульнай);
7) ад камунікацыяў (вадаправод, ацяпленне, каналізацыя, газ, тэлефон) ды многія іншыя фактары.

На Беларусі самыя дарагія дамы - у сталіцы. Яны, як правіла, на 30-40 працэнтаў вышэйшыя за аналагічныя ў Брэсце, Віцебску, Гродне, Гомелі ды Магілёве. Кошты дамоў у абласных цэнтрах прыблізна аднолькавыя.

На сённяшні дзень у Гродне драўляны дом з непачным ацяпленнем і вадаправодам, жылой плошчай 60-80 квадратных метраў і г. д., можна набыць за 13-22 тысячы даляраў ЗША. Двухпавярховы цагляны катэдж з усімі камунікацыямі, з аналагічнай жылой плошчай абыдзецца ў 20-30 тысяч даляраў. Калі жылая плошча складае 80-120 квадратных метраў і дом размешчаны не на ўскрайку горада, то кошт можа складаць ад 28 да 50 тысяч даляраў ЗША. Згодна з меркаваннем «рыэлтараў», болей, чым за 55 тысяч даляраў, сёння катэдж у Гродне не прадаць. Няма пакупнікоў і няма грошай. Той, у каго ёсць, укладвае іх не ў нерухомую маёмасць на радзіме. Увогуле, зыходзячы з размовы са спецыялістамі па нерухомай маёмасці, мы зразумелі, што з пакупкай катэджа ніколі не трэба спяшацца. 4-5-пакаёвы 2-павярховы катэдж з усімі камунікацыямі, жылой плошчай каля 80-ці квадратных метраў, з добрым месцазнаходжаннем на сваім кошце не павінен пераўзыходзіць сярэднегарадскую (у абласных гарадах) цану 2-3-пакаёвых кватэраў, гэта значыць, больш за 32 тысячы даляраў. Таму ў Гродне з улікам усеагульнага зніжэння коштаў на нерухомую маёмасць добрыя катэджы можна набыць за «нейкія» 27-28 тысячаў даляраў ЗША. І ўсяго толькі...

Акрамя продажу дамоў са 100-працэнтнай гатоўнасцю, на рынку нерухомай маёмасці больш за палову дамоў (катэджаў) прадаецца ў «незакончаным будаўніцтве». На гэтым сегменце рынка зніжэнне абарота ў параўнанні з 1996 годам не такое значнае - у тры разы, хаця кошты таксама знізіліся (у сярэднім на 25-35 працэнтаў, у залежнасці ад гатоўнасці катэджаў). Больш за ўсё прапаноў на продаж «незакончанага будаўніцтва» ў Каробчыцах, Зарыцы-2, Зарыцы-3, Баранавічах і Чэхаўшчызне. Цана катэджаў з гатоўнасцю 50-75 працэнтаў вагаецца ў межах 4-8 тысяч даляраў, а з гатоўнасцю 76-95 працэнтаў - у межах 8-24 тысяч даляраў ЗША.

**Сяргей Міронаў**

# Няма ахвотных на арэнду?

**У перыяд летніх адпачынкаў наступіла зацішша на рынку нерухомай маёмасці.**

Колькасць прапаноў на рынку арэнды пераўзыходзіць попыт у 4-5 разоў. Гарадзенскія кошты мала чым адрозніваюцца ад агульнарэспубліканскіх, за выключэннем сталічных (плюс 25-40 працэнтаў да сярэдняга ўзроўню). У параўнанні з апошнім (красавіцкім) аглядам рынку арэнды кватэраў, кошты знізіліся яшчэ на 15-20 працэнтаў, а да ўзроўня сакавіка-красавіка 1996 года - нават на 70-80 працэнтаў. Арэнда кватэраў сёння найбольш патаннела, у параўнанні з іншымі сегментамі рынку нерухомай маёмасці.

У наш час з-за вялікіх цяжкасцяў з продажам кватэраў уласнікі імкнуцца хоць неяк выкруціцца ў дадзенай сітуацыі і прапануюць сваю нерухомую маёмасць у арэнду. Такім чынам, на кошт найма жылога памяшкання ажыццяўляецца трайны ціск:

1) нізкі сярэднемесячны заробак грамадзянаў Рэспублікі і адпаведна іх невялікія магчымасці на арэнду;

2) летняе зацішша ў заключэнні здзелак;

3) рэзкае зніжэнне попыту, у тым ліку з-за павелічэння прапаноў з рынку куплі-продажу кватэраў (маецца на ўвазе адпаведнасць попыту і прапановы).

На 9-га жніўня гэтага года ў Гродне былі наступныя прапановы на рынку найма жылых памяшканняў (глядзіце табліцу). Пераважаюць аднапакаёвыя кватэры (калі ўлічваць і шматпакаёвыя, дзе здаецца толькі пакой). Яны складаюць болей за 40 працэнтаў прапаноў. Як мы бачым з табліцы, кошт арэнды любой кватэры залежыць ад яе месцазнаходжання, планіроўкі, наяўнасці тэлефона, мэблі ды інш. У сярэднім па Гродне на цяперашні час кошт арэнды аднапакаёвай кватэры складае 25 у.а, 2-пакаёвай - 35 у.а., 3-пакаёвай - 50 у.а. і 4-пакаёвай - 75 у.а.

Вялікі ўплыў на кошт памяшкання, якое здаецца ў арэнду,ажыццяўляе тэрмін арэнды і форма аплаты. Калі наймальніку неабходна арандаваць нейкае памяшканне на год і болей, і ён мае магчымасць для папярэдняй аплаты, то кошт можа быць зніжаны да 80-ці працэнтаў ад запрошваемага.

У апошні час на рынку найма жылых памяшканняў з'явілася шмат прапаноў у так званым прыватным сектары. Попыт на такое жыллё з красавіка гэтага года не павялічыўся, аднак і не зменшыўся. Таму кошт з вясны не змяніўся і складае прыблізна 40-45 у.а. Самае цікавае, што частка якой-небудзь драўлянай хаты ў большасці выпадкаў выкарыстоўваецца не для жылля, а ў якасці склада разнастайных тавараў. Ды і нейкая ахова маёмасці з боку гаспадара хаты таксама прадугледжана.

З 1997 года ў Гродне (у Менску з 1994 года) на рынку нерухомай маёмасці з'явіўся такі сегмент, як здача жылога памяшкання ў найм на адныя, двое, і г. д. сутак. Гэтая форма арэнды стала вельмі папулярнай у апошні час сярод моладзі. Жыццё грамадзянаў, згодна з правіламі сацыялістычнага інтэрнату, якое працягваецца ў рэспубліцы, не дазваляе добра правесці час з хлопцам ці дзяўчынай, напрыклад, у мясцовых гатэлях. І што ж даводзіцца рабіць, калі вельмі хочацца, але няма дзе? Канешне, скарыстацца паслугамі некаторых «рыэлтараў», якія хутка прадастаўляць вам сціплыя, ці, магчыма, шыкоўныя апартаменты. У такіх выпадках арандатару давядзецца пакласці ад 1,9 мільёна беларускіх рублёў да 20 у.а. за суткі - у залежнасці ад памяшкання.

На рынку нерухомай маёмасці ў Гродне ёсць і такі сегмент, як арэнда катэджа. Вялікім поспехам дадзены від арэнды ў грамадзянаў не карыстаецца. Тым не менш, для тых, хто цікавіцца, паведамляем: за месяц вам давядзецца выкласці за арэнду катэджа ў горадзе 120-200 у. а., за горадам - 100-150 у.а. Магчыма, сярод чытачоў ПАГОНІ знойдуцца і такія забяспечаныя грамадзяне.

Згодна з меркаваннямі эканамістаў, у бліжэйшыя месяцы (хутчэй за ўсё у кастрычніку) кошты арэнды жылля ўзрастуць па ўсёй рэспубліцы прыблізна на 15-20 працэнтаў і наблізяцца да красавіцкіх коштаў гэтага года. Да студзеня 2000 года таксама магчыма чарговае падаражанне арэнды. Справа ў тым, што з пачатку наступнага года істотна ўзрасце плата за камунальныя паслугі, за якія ў наш час плаціць арэндадаўца. Зразумела, што калі на 10-15 у.а. узрастуць кошты на паслугі камунальнікаў да сённяшніх 2-3 у.а., то яны ўвойдуць у кошт арэнды цалкам.

Як і раней, мала хто заключае дамову па найму жылога памяшкання ў натарыяльных канторах. Але ў адпаведнасці з артыкулам 642 Грамадзянскага кодэкса РБ і адпаведных артыкулаў Жыллёвага кодэкса, яе трэба было б заключыць, асабліва ў мэтах абароны магчымага парушэння ў будучым правоў абодвух бакоў. Тым не менш, грамадзяне не спяшаюцца заключаць дамовы, бо не жадаюць звязвацца з падатковымі інспекцыямі. Зыходзячы з колькасці дамоваў на наймах жылых памяшканняў, зарэгістраваных у натарыяльных канторах, хочацца зрабіць выснову: хутка арандаваць кватэру не будзе каму..

**Кацярына Зволін**

**Табліца**

| Месцазнаходж. | Планір. | Кольк. пакояў | Тэл. | Мэбля | Тэрм.арэнды | Кошт |
|---|---|---|---|---|---|---|
| вул. Урублеўскага | хрушч. | 1 | + | + | 1мес. і больш | 30 |
| пр-т 40 гадоў Перамогі | новая | 1 | - | - | 1 мес. і больш | 20 |
| вул. Пушкіна | хрушч. | 1 | - | - | 1 мес. і больш | 20 |
| вул. Ліможа | новая | 1 | - | - | 1 год і больш | 240 |
| пр-т Касманаўтаў | хрушч. | 1 | + | + | 1 мес. і больш | 40 |
| вул. Шчорса | новая | 1 | + | - | паўгода і больш | 210 |
| пр-т Будаўнікоў | брэжн. | 1 | + | + | 1 мес. і больш | 40 |
| м-н Фолюш | новая | 1 | + | + | 3 мес. | 100 |
| вул. Каліноўскага | брэжн. | 1 | - | + | паўгода і больш | 170 |
| вул. Сав. Пагранічн. | хрушч. | 1 | - | - | 1 мес. | 25 |
| вул. Кірава | сталін. | 1 | - | - | 1 мес. | 30 |
| пр-т Я.Купалы | брэжн. | 1 | + | + | 1 мес і больш | 35 |
| вул. Дзяржынскага | новая | 1 | - | - | паўгода і больш | 150 |
| вул Сацыялістычная | сталін. | 1 | - | + | 1 год | 500 |
| БЛК | новая | 1 | - | - | 1 мес. і больш | 25 |
| вул. Церашковай | новая | 1 | - | + | паўгода і больш | 180 |
| вул. Дамброўскага | хрушч. | 2 | - | - | 1мес. і больш | 25 |
| вул. Кляновая | новая | 2 | + | - | паўгода і больш | 180 |
| вул. Гая | хрушч. | 2 | - | - | 1 мес. і больш | 25 |
| Індурская шаша | новая | 2 | + | + | 1 мес. і больш | 35 |
| вул. Камунальная | 1/2 дома | 2 | - | - | 1 год | 300 |
| вул. Брыкеля | новая | 2 | - | + | 1 мес. і больш. | 30 |
| пр-т Будаўнікоў | новая | 2 | + | + | 1 мес. | 40 |
| вул. Ажэшкі | брэжн. | 2 | + | + | 1 мес. і больш | 50 |
| пр-т Касманаўтаў | хрушч. | 2 | - | - | паўгода і больш | 180 |
| вул. Фамічова | брэжн. | 2 | - | + | 1 мес. і больш | 35 |
| вул. Дзяржынскага | новая | 3 | + | + | 1 мес. і больш | 50 |
| вул. Суворава | новая | 3 | + | + | паўгода і больш | 290 |
| пр-т 40 гадоў Перамогі | новая | 3 | - | - | 1 год і больш | 500 |
| вул. Даватара | хрушч. | 3 | - | + | 1 мес. | 45 |
| БЛК | хрушч. | 3 | - | + | 1 год | 500 |
| вул. Пестрака | брэжн. | 3 | + | + | 3 мес. | 180 |
| вул. Антонава | брэжн. | 3 | + | + | 1 мес. і больш | 65 |
| вул. Горкага | новая | 4 | + | - | паўгода і больш | 560 |
| вул. Кабяка | новая | 4 | - | - | 1 год | 650 |
| пр-т Я.Купалы | брэжн. | 4 | + | + | 1 год і больш | 1200 |
| вул. Таўлая | новая | 4 | - | + | 1 год і больш | 1000 |

**Заўвага: кошты пададзены ва ўмоўных адзінках.**

# Курсы валют

На 25 жніўня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют:

даляр ЗША — 277.000 беларускіх рублёў; еўра — 289.769,70; нямецкая марка — 148.156,90; расійскі рубель — 11.220. У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс даляра не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 25 жніўня даляр куплялі па 485.000—490.000 і прадавалі па 495.000—500.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём курс вырас у сярэднім на 5.000 рублёў.

**У мінулыя выхадныя на «чорным» рынку абмену наяўнай валюты ў Менску быў адзначаны істотны рост каціровак амерыканскага даляра. Так, ужо ў другой палове дня ў пятніцу, 20 жніўня, курс куплі даляра ЗША ў большасці апаратаў ценавога рынку павысіўся да 470-475 тысяч рублёў. Такая сітуацыя не магла не адбіцца на курсе замежнай валюты, які складваецца на гарадскіх рэчавых і харчовых рынках.**

**У прыватнасці, у нядзелю, 22 жніўня, практычна ўсе гандляры пры рэалізацыі тавару вызначалі яго кошт з разліку 500 тысяч беларускіх рублёў за даляр ЗША. У панядзелак, 23 жніўня, сітуацыя на «чорным» рынку абмену наяўнай валюты крыху стабілізавалася: да поўдня ценявыя апараты даляр ЗША куплялі па 480.000—485.000 рублёў і прадавалі па 490.000—495.000 рублёў. Такім чынам, у параўнанні з пятніцай курс вырас у сярэднім на 10 тысяч рублёў.**

**Пры гэтым ценявыя апараты пакуль не могуць прагназаваць далейшыя каціроўкі «чорнага» рынку і лічаць, што канчатковая сітуацыя павінна праясніцца ў бліжэйшыя дні.**

**Ягор Звоннікаў**

# Нічога ў няўмелых не атрымліваецца...

**Вынікі працы народнай гаспадаркі краіны за першае паўгоддзе і ліпень бягучага года разгледжаны на пашыраным пасяджэнні прэзідыума Савета Міністраў Беларусі, якое адбылося 24 жніўня у Менску.**

Як паведамілі афіцыйныя крыніцы, падчас пасяджэння было адзначана, што ў параўнанні з першым кварталам за апошнія месяцы адбыліся пэўныя зрухі ў працы некаторых сектараў эканомікі. Разам з тым канстатавана, што не выканана большасць асноўных прагнозных параметраў сацыяльна-эканамічнага развіцця. Фінансавыя цяжкасці рэальнага сектару прывялі да паглыблення ўжо даўно існуючых праблем неплацяжоў, росту крэдыторскай запазычанасці, якая значна перавышае дэбіторскую, падзенне аб'ёмаў інвестыцый у асноўны капітал і г.д. За сем месяцаў не ўдалося забяспечыць выкананне такіх прагнозных параметраў як тэмп росту ВУП, які склаў 101 працэнт (па прагнозе — 103—104 працэнты); вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі — 90,1 (102—103), інвестыцыі ў асноўны капітал — 96,9 (104—105), грашовыя даходы насельніцтва за студзень-чэрвень — 95 (101—102); рознічны тавараабарот — 99,2 (106—107); аб'ём знешняга гандлю за студзень-чэрвень — 72,9 (103—104), у тым ліку экспарт — 79,1 (104—105) і імпарт — 67,9 працэнта (101,5—102,5 працэнта).

Міністр эканомікі Уладзімір Шымаў лічыць выключна важнай на сёння праблему, звязаную з недасканаласцю грашова-крэдытнай палітыкі. Адсюль, паводле ягоных слоў, падзенне у апошнія месяцы вытворчасці прамысловай прадукцыі. У першым паўгоддзі мела месца апераджаючае крэдытаванне жыллёвага будаўніц-тва, сельскай гаспадаркі, што не толькі абмежавала магчымасці банкаў у крэдытаванні прамысловасці, але і прывяло да неабходнасці пошуку сродкаў для падтрымкі ліквіднасці саміх банкаў. У другім паўгоддзі, лічыць міністр, існуе «неабходнасць пераарыентацыі фінансавых патокаў на карысць прамысловасці і, перш за ўсё, прадпрыемстваў-экспарцёраў». Нягледзячы на тое, што ў ліпені атрымалася выйсці на спрагназаваны паказчык інфляцыі, яе сярэднемесячны ўзровень застаецца вялікі. На развіццё інфляцыйных працэсаў значна паўплывала пашырэнне грашовай масы. «Прынятае прэзідыумам Савета Міністраў рашэнне аб крэдытаванні эмісіі ў трэцім квартале 1999 года ў памеры 35,5 трлн. руб. ужо забяспечыла, як паказваюць разлікі, сярэднемесячную інфляцыю на ўзроўні каля 10 працэнтаў. Гэта вельмі цяжкае стартавае поле для эканомікі ў 2000 годзе», — заявіў Уладзімір Шымаў.

На прэзідыуме зноў адной з галоўнай была тэма валютнага рэгулявання. Усе прысутныя аднагалосна выказалі падтрымку пераходу на адзіны курс беларускага рубля, хаця не выпрацавалі адзінага варыянта такога пераходу. Паводле слоў старшыні праўлення Нацбанка Пятра Пракаповіча, рабочай групай разгледжана некалькі падыходаў — ад жорстка адміністратыўных да ліберальных. На чым сышлася гэтая група, невядома. Аднак дакумент з заўвагамі першага віцэ-прэм"ера ўрада Васіля Даўгалёва быў адпраўлены на дапрацоўку. Як заявіў сам В.Даўгалеў, ён бачыць адзінае выйсце — »увядзенне жорсткага валютнага рэгулявання, нейтралізацыя неафіцыйнага валютнага рынку, зніжэнне долі валютных аперацый на «чорным» рынку, увядзенне адзінага курсу. Прычым гэта неабходна рабіць неадкладна, паколькі часу на раскачку проста няма». Аднак, бліжэйшым часам не адбудзецца якіх-небудзь значных зменаў на валютным рынку ў плане свабоднага курсаўтварэння, гэта падкрэсліў прэм"ер-міністр Беларусі Сяргей Лінг.

**Ул. Інф.**

# «American Express» для беднага беларуса

**Пріорбанк распачаў продаж дарожных чэкаў «American Express» у даларах ЗША і нямецкіх марках. Пры куплі чэкаў за наяўны разлік збіраецца камісія ў памеры 1 працэнта, пры безнаяўным разліку — 1,5 працэнта.**

Як паведамілі ў Пріорбанку, зараз чэкі ўжо паступілі ва ўсе філіі банку ў Менску; бліжэйшым часам яны павінны з'явіцца ў іншых аддзяленнях банка. Свабодна можна набыць чэкі на суму больш за 500 мінімальных зарплат па курсе Нацбанка Беларусі. Здзелка на гэтую суму ажыццяўляецца пры наяўнасці даведкі аб прадастаўленні дэкларацыі ў падатковую інспекцыю.

**Ул. Інф.**

# Аўкцыён у Гродне

**30 жніўня адбудзецца аўкцыён у Гродне, на якім будуць прадавацца аднапавярховы блочны будынак, тры памяшканні на першым паверсе жылога дома, а таксама права арэнды будынку.**

